№ 32/96

11 17 лістапада

ШТОТЫДНЕВЫ
ІНФАРМАЦЫЙНЫ
ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ
НАША НІВА

Новае слова на рынку беларускае прэсы штотыдзень 8 паласоў патрэбнае інфармацыі

# Інфарматар

## НАША НІВА

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ
ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ
BELARUSIAN PUBLIC
RELATIONS ASSOCIATION





Паслугі ксэракопіі, выгадна, хутка Тэлефон 253 92-26

Прапаную працу на даму. Ад Вас — капэрта са зваротнай адрэсай. 231800 г.Слонім, а/с 23

Навучаю французскай мове хутка і якасна.
Тэлефон: 231-06-33.

Баўгарская польская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 221 24-81

Куплю лядоўню М 131 б/к Печ СВЧ танна Тэл 294-16-99

Прадаю драўляны новы дом 100 м2 на беразе возера у мястэчку Камень ля Лепеля. 1 га зямлі. Лепельскі раён, в. Камень т. 2-39-70

Куплю не прыдатны да рамонту электрычны рубанак
Тэл 294 16-99

## Бясплатныя прыватныя абвесткі

Набуду нятанна маленькі жоўценькі слоўнік ангельска-беларускі, беларуска-ангельскі Тэлефон: 254-37-24

Шукаю спонсараў для выданьня кнігі і паштоўкі, прысьвечаных 90-ым угодкам генэрала Міхала Вітушкі. Тэлефануйце ў Слонім 2 17-633 (да абеду)

Праца ў Даніі, сбор садавіны, 650 кг прыблізна 9$ на гадзіну, 2 капэрты са зваротнай адрэсай і купон бясплатнай абвесткі. 220073, Менск, а/с "3" Шышкоўскі В.А.

Запрашаю да перапіскі прыхільнікаў права-радыкальнага накірунку. 246012, г.Гомель, а/с 124

30 лістапада, субота, Міжнародны дзень зьмяншэньня спажываньня (No Shop Day). Перад тым, як нешта набыць, падумай це: "А ці трэба?!"

СП "Арбор" Паліграфічныя паслугі ад блянкаў да кніг. Кошты памяркоўныя Тэлефануйце: 262-49-04

Праца на даму са штодзённым атрыманьнем грошай, укладаньне цыркуляраў ад 6$ на дзень капэрта са зваротнай адрэсай. 220073 Менск а/с 26 "РНД"

Навучаю ангельскай мове. Маю кембрыджскі сэртыфікат найвышэйшага ўзроўню, досьвед працы і навучаньня ў Лендане. Тэлефон: 47-61-18

Шукаем беларускіх патрыётаў з г.Смалявічаў і раёну. 222210, г.Смалявічы, вул.Савецкая, 156-24

Прадаю відэакаталёг "Leonard Maltin's movie and video Guide 1994 (США, 19000 фільмаў) Тэл 63-24-03

Куплю "Яву" нядорага. Тэлефон у Берасьці 26-51-68

Прадам 2-х томнік А.А.Грамыкі "Памятное (па-расейску). Гомель, тэлефон: 47-49-26

Малады абаяльны лідар-патрыет шукае прывабную дзяўчыну-беларусачку, аднадумку і магчыма спадарожніцу жыцьця. 222310 г.Маладэчна вул.Папявая, 39.
Сяргей Юркевіч.



## КУПОН

*Бясплатнай прыватнай абвесткі*

***Імя і прозьвішча***

***Адрэса, тэлефон***

***Тэкст***

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна.

**220123, Менск, а/с. 71** НАША НІВА

# The Publishers Weekly Bestsellers
# Сьпіс бэстсэлераў на 4.11.96

| На гэтым тыдні | На мінулым тыдні | Назва кнігі. Аўтар | Выдавецтва | Колькасьць тыдняў у сьпісе |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | The Deep End of the Ocean Жаклін Мітчард | Viking | 8 |
| 2 | 2 | The Laws of Our Fathers Скот Тароў | Farrar Straus & Giroux | 5 |
| 3 | 5 | My Gal Sunday Мэры Хігінс Кларк | Simon & Schuster | 2 |
| 4 | 3 | Desperation Стывэн Кінг | Viking | 2 |
| 5 | 10 | The Tailor of Panama Джон Ле Карэ | Knopf | 2 |
| 6 | 7 | The Regulators Рычард Бахман | Dutton | 5 |
| 7 | 4 | Executive Orders Том Клэнсі | Putnam | 11 |
| 8 | 6 | To the Hilt Дзік Фрэнсыс | Putnam | 5 |
| 9 | 9 | The Third Twin Кэн Фолет | Crown | 8 |
| 10 | 9 | The Notebook Нікалас Спаркс | Warner | 3 |



# 20 ЛЕПШЫХ СЫНГЛАЎ АНГЛІІ на 03 11.1996

| Месца на гэтым тыдні | Месца на мінулым тыдні | Назва песьні | Выканаўца |
|---|---|---|---|
| 1 | (0) | What Becomes Of The Broken Hearted | Робсан & Джэрам |
| 2 | 1(2) | Say You'll Be There | Spice Girls |
| 3 | 2(1) | If You Ever | East 17 |
| 4 | (0) | Angel | Simply Red |
| 5 | 4(1) | Un-Break My Heart | Тоні Брэкстан |
| 6 | (0) | I Belong To You | Джына Джы |
| 7 | 7(2) | You're Gorgeous | Baby Bird |
| 8 | 5(2) | Insomnia | Faithless |
| 9 | 3(2) | Words | Boyzone |
| 10 | (0) | Don't Make Me Wait | 911 |
| 11 | 8(2) | It's All Coming Back To Me Now | Сэлін Дыён |
| 12 | (0) | This Is For The Lover In You | Babyface |
| 13 | (0) | Possibly Maybe | Б'ёрк |
| 14 | (0) | Place Your Hands | Reef |
| 15 | (0) | 1st Of Tha Month | Bone Thugs-N Harmony |
| 16 | 12(5) | Alisha Rules The World | Alisha's Attic |
| 17 | 9(1) | Follow The Rules | Livin' Joy |
| 18 | 13(3) | Breakfast At Tiffany's | Deep Blue Something |
| 19 | 11(3) | Neighbourhood | Space |
| 20 | [illegible] | I Love You Always Forever | Дона Люіс |

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусі
АБАНЭМЭНТ на газэту **63125**

НАША НІВА

| Колькасьць камплектаў | |
|---|---|

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 5 6 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) (адрэса)

Каму ______ (прозьвішча ініцыялы)

**ДАСТАЎНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | Літэр

на газэту **63125**

НАША НІВА

| Кошт | падпіскі | руб | Колькасьць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрас. | руб | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс, (адрэса)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

